© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014


# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 5(11) 4 сакавіка 1992 г. Цана 40 кап.


## ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСІ!

Мы стаім на мяжы жабрацтва. Эканоміка Беларусі зьнішчаецца. Яшчэ два гады таму на рубель выплачанай зарплаты ў Рэспубліцы выраблялася тавараў на 2 рублі, і былі ўсе магчымасці ўдвая палепшыць жыццёвы ўзровень народу. Ужо тады Беларускі Народны Фронт прадбачыў развал Саюза, крах ягонай гаспадаркі і прапанаваў рашучыя захады, каб уратаваць беларускую эканоміку. Галоўны спосаб абароны насельніцтва Рэспублікі ад непрадказальнай палітыкі суседніх дзяржаваў—умацаваньне незалежнасьці. Гэта ўласныя грошы, мытная служба, войска... Паводле разьлікаў спецыялістаў, Беларусь, якая мае разьвіты гаспадарчы комплекс, кампактную тэрыторыю, надзвычай выгаднае геаграфічнае становішча, працаздольны і таленавіты народ, магла б за 8 гадоў наблізіцца да ўзроўню жыцьця эўрапейскіх краін.

Аднак два гады Вярхоўны Савет і Урад цягнуцца ў хвасьце суседніх дзяржаваў. У выніку Беларусь нясе мільярдныя страты, гіне эканоміка, растуць цэны. Спыняюцца заводы. Неўзабаве пачнуцца масавыя звальненьні працоўных. Нам пагражае эканамічны паралюш, калі ня будзе ні працы, ні тавараў, ні грошай. Вось вынік палітыкі «мы пойдем вслед за Россией»! Куды!

Тым часам кіраўнічая наменклатура, перасеўшы з кабінетаў ЦК у кабінеты Саўміна і Вярхоўнага Савету, праводзіць «дзікую» прыватызацыю, ператвараючы агульнанацыянальнае багацьце ў сваё ўласнае. Гэтае злачынства выклікае абурэньне сумленных людзей. Узрастае напружанасьць, узьнікае пагроза сацыяльнага выбуху.

У гэтых умовах адзінае выйсьце—тэрміновы роспуск наменклатурнага Вярхоўнага Савету. Трэба стварыць новы, прафесійны вышэйшы орган улады і Урад народнага даверу, якія пачнуць хутка ажыцьцяўляць праграму выхаду з крызісу. Адпаведная канцэпцыя эканамічнага разьвіцьця Рэспублікі створана ў Апазіцыі БНФ.

Мы прапануемісьці да роспуску ВС і новых выбараў законным шляхам—шляхам рэферэндуму. Рэферэндум—гэта адзіная магчымасць цывілізаваным спосабам высьветліць думку грамадзян: ці падтрымліваюць яны палітыку цяперашніх уладаў, ці выказваюць уладам недавер!

Для таго, каб правесьці такое галасаваньне (рэферэндум), трэба папярэдне сабраць 350000 подпісаў. Заклікаем грамадзянаў Беларусі падтрымаць гэтую ініцыятыву і паставіць свае подпісы за правядзеньне рэферэндуму.

Ініцыятыўная група рэферэндуму.




## «Указаний не поступало!»

У сераду, 26 лютага 1992 года я занёс запоўненыя падпісныя лісты ў падтрымку Усебеларускага рэферэндуму да кіраўніка спраў Віцебскага гарвыканкома Івана Кухто, каб той паставіў пячатку і засьведчыў мой подпіс як члена ініцыятыўнай групы. Аднак, спадар Кухто адмовіўся ставіць пячатку, спасылаючыся на тое, што «Указаний не поступало», ён нічога не ведае, закона аб рэферэндуме не чытаў, і ўвогуле, часу не мае.

М. ПЯТРОЎ.

**УВАЖАЕМЫЕ ГРАЖДАНЕ! СВОЮ ПОДПИСЬ В ПОДДЕРЖКУ РЕФЕРЕНДУМА ВЫ МОЖЕТЕ ПОСТАВИТЬ:**

В областной библиотеке (фойе), в главпочтамте (фойе), в Витебском горисполкоме (фойе), в редакции газеты «Выбор» (улица Гоголя, 17, 4-й этаж, комната № 34, телефон 37-35-06).

При себе следует иметь паспорт.

*Васіль БЫКАЎ:*

## «Думаю, што аб'яднанне ў Саюз ужо не выйдзе»

*Рабочы кабінет народнага пісьменніка Васіля Быкава перапоўнены кнігамі. На выступах шафаў, на сталах—самыя розныя газеты. Дзесьці сярод іх і наш маленькі «Выбар», які дасылае рэдакцыя свайму земляку. Сусветна вядомы мастак слова адказвае на пытанні карэспандэнта Яўгеніі Мальчэўскай, думае ўголас аб складаным і супярэчлівым жыцці сённяшняй Беларусі. Падключыся і ты да гэтага роздуму, наш чытач.*



—Васіль Уладзіміравіч, у нядаўнім інтэрв'ю ў ЛІМе вы выказалі, што першасным у нашым нацыянальным Адраджэнні з'яўляюцца новыя палітычныя пераўтварэнні. Як вы думаеце, ці зарыентуюцца на падтрымку новых пераўтварэнняў былыя партыйныя газеты, стаўшыя сення незалежнымі. У першую чаргу, на падтрымку іх. Я, напрыклад, ведаю, што старэйшая абласная газета нашай вобласці пасля некаторага зацішша заняла адваротную пазіцыю. Канкрэтней, праз пісьмы ветэранаў вядзецца асуджэнне БНФ, правядзення рэферэндуму. Так і заяўляецца, што «дэмакраты, Народны фронт давялі да галечы беларускі народ, што пад націскам БНФ прымаюцца неразумныя рашэнні» і г. д.

Як вы лічыце, ці ёсць надзея, што былыя партыйныя журналісты ў нечым зменяцца, павернуцца да разумення, што многапартыйнасць стала рэальнай, што рэферэндум трэба падтрымаць?

—Ніколі яны не павернуцца. Справа ў тым, што прырода камуністаў такая, ды і ўсяго камуністычнага руху, што яна не падлягае ніякаму перараджэнню ў лепшы бок. І сутнасць яе застаецца

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАШКАДУЙЦЕ КАМУНІСТАЎ

Нядаўна я спытаў аднаго даволі зацятага камуніста, ці падтрымлівае ён ідэю БНФ аб правядзенні рэферэндума:—«Как, накануне посевной? Проклятые демократы, урожай не убрали, сгноили, а сейчас посевную сорвать хотите?»

Я не стаў з ім спрачацца, бо мне здаецца, і так усё зразумела. Шкада чалавека, калі ён цяжка хворы. Шкада той часткі грамадства, якая ў гіпнатычным стане ня здольна разьлічыць праўду і хлусьню. Ня здольна зразумець, што працоўнаму селяніну, які яшчэ застаўся, патрэбна не «посевная компания» а свабода самому вырашыць, што дзе пасеяць, тэхніка апрацаваць зямлю, зямля, насеньне, крэдыты.

Спадары! Пашкадуйце камуністаў! Вельмі ж ужо цяжкае ў іх выдалася жыццё. Колькі нерваў каштавала ім ідэя адыёзнага правадыра сусьветнага камунізму. Амаль усё жыццё ў акопах, не кожны і вытрывае.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



Зянон ПАЗЬНЯК

# ПАЛІТЫЧНЫЯ І ЭКАНАМІЧНЫЯ ПАДСТАВЫ РЭФЕРЭНДУМУ

Цяперашні Вярхоўны Савет выбіраўся на аснове недэмакратычнага выбарчага закону за часы камуністычнага панаваньня на Беларусі ў складзе СССР. Ен аказаўся ня здольным адпаведна дзейнічаць ва ўмовах незалежнай беларускай дзяржавы. Вярхоўны Савет больш чым на дзьве трэці складаецца з былой камуністычнай наменклатуры — партыйных кіраўнікоў, прамысловых, калгасных, выканкамаўскіх начальнікаў, пэрсанальных пэнсіянераў.

Яны і зацьверджаны імі ўрад ня хочуць і ня могуць праводзіць палітыку ў інтарэсах народу й дзяржаўнай будучыні Беларусі. Асноўны іхні клопат — насуперак здароваму сэнсу прадоўжыць існаваньне адміністрацыйнай сістэмы, захаваць сваю ўладу і уласнасць. У канцы 1991 года, нягледзячы на крытыку з боку дэпутатаў Апазіцыі БНФ, кансерватыўны Вярхоўны Савет прыняў у поўным сэнсе антыдзяржаўныя законы пра падаткаабкладаньне. Рэалізацыя гэтых законаў прывядзе да развалу як дзяржаўных прадпрыемстваў, так і прадпрымальніцкіх структураў.

Рэзкае, не збалансаванае з узроўнем заработнай платы падвышэньне цэнаў і зьніжэньне ўзроўню жыцьця людзей — гэта перш за ўсё вынік пасіўнай, бяздумнай палітыкі ўраду й Вярхоўнага Савету. Іх кіраўнікі, ня маючы канцэпцыі дзяржаўнага разьвіцьця Беларусі, ідуць у рэчышчы адміністратарскай палітыкі Расеі, залежаць ад рашэньняў расейскага ўраду й балячак хворай расейскай эканомікі. На апошняй сэсіі Вярхоўнага Савета добра было відаць, як урад і кансэрватыўная дэпутацкая большасць зрабіліся ахвярамі й закладнікамі ўласнай антынароднай палітыкі. Эканоміка перастала быць кіравальнай. Улады ня могуць уплываць на ўзровень інфляцыі, на цэны, на забесьпячэньне вытворчасці матэр'яльнымі рэсурсамі. Складзены імі бюджэт на 1992 год зьяўляецца нерэальным пражэктам.

Намэнклятурны экскамуністычны Вярхоўны Савет на працягу амаль двух гадоў існаваньня адкідваў усе здаровыя прапановы Апазіцыі БНФ — аб увядзеньні беларускіх грошай, аб мытнай службе й межах, аб беларускім войску, аб прыватнай уласнасьці на зямлю й разьвіцьці фэрмэрскіх гаспадарак, аб прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці на аснове роўных стартавых магчымасьцяў і г. д. Цяпер жыцьцё прымушае яго займацца і мытнаю службай, і войскам, і думаць пра ўвядзеньне беларускіх грошай. Але час ужо страчаны. Беларускі народ штурхнулі ў галечу. Стварэньне дзяржаўнай фінансавай сістэмы на аснове нацыянальнай валюты — складаны працэс, ён патрабуе добрай падрыхтоўкі.

Старыя структуры ўлады да гэтага ня здольныя, яны могуць толькі сапсаваць справу.

Цяпер кожны дзень існаваньня Вярхоўнага Савету, выбранага ў часы камуністычнай БССР, небясьпечны для Рэспублікі. Гэты орган зрабіўся тормазам эканамічнага й палітычнага разьвіцьця Беларусі.

Уладзімір АНЦУЛЕВІЧ

# ПРА ФАРМУЛЁЎКУ ПЫТАННЯ РЭФЕРЭНДУМУ

Закон аб рэфэрэндуме, які ўступіў у дзеяньне зь 1 студзеня 1992 года, дае магчымасць шляхам усенароднага галасаваньня вырашаць праблемы дзяржаўнага й грамадзкага жыцьця Беларусі ў выпадках, калі гэтыя праблемы ня хоча ці ня можа вырашыць Вярхоўны Савет. Зараз склалася такая сітуацыя, што Вярхоўны Савет увогуле нічога не вырашае, а калі вырашае, дык робіць гэта са значным спазьненьнем, у выніку чаго дзяржава нясе велізарныя страты, а народ пакутуе. Аднак выносіць усе наспелыя пытаньні на ўсеагульнае галасаваньне немагчыма, бо гэта патрабуе шмат сілаў, сродкаў, часу. Тым больш паўстае пытаньне: навошта нам у такім выпадку Вярхоўны Савет? З гэтага натуральна вынікае патрабаваньне аб роспуску Вярхоўнага Савету.

Аднак адразу паўстае іншае пытаньне: а што ўзамен? Ці будзе новы Вярхоўны Савет лепшым? Ведаючы цяперашняе выбарчае заканадаўства, выбарчую практыку, можна адназначна сказаць: не, калі выбіраць Вярхоўны Савет па тым жа законе, лепшым ён ня будзе.

Таму патрабаваньне роспуску Вярхоўнага Савету ня можа быць адасобленым. Яно павінна натуральна спалучацца з патрабаваньнем зьмены выбарчага заканадаўства. Пры гэтым нельга проста паставіць пытаньне аб прыняцьці новага закону аб выбарах, бо можна атрымаць «ката ў мяху» — новы закон, распрацаваны тымі ж вернымі лакеямі намэнклятуры, можа аказацца горшым за стары. Неабходна дамагацца прыняцьця дэмакратычнага закону аб выбарах, які б цалкам адпавядаў міжнародным патрабаваньням, улічваў бы сусьветную й айчынную практыку выбараў, характар і псыхалёгію беларускага народу, гарантаваў бы ўвесь спэктар выбарчых правоў як асобных грамадзянаў, так і грамадзка-палітычных аб'яднаньняў, не ствараючы нікому штучнай перавагі.

Праект такога закону існуе. Ен распрацаваны на пачатку мінулага году і неаднаразова ўносіўся Апазіцыяй БНФ на разгляд Вярхоўнага Савету. Не знаходзячы ніякіх абгрунтаваных аргумэнтаў супраць гэтага законапраекту, намэнклятурная большасьць Вярхоўнага Савету проста адмаўляецца яго абмяркоўваць. Гэта найбольш яскрава сьведчыць на карысьць законапраекту і яго якасьці.

Улічваючы прыведзеныя меркаваньні, ініцыятыўная група выпрацавала праект пытаньня, што прапануецца на рэферэндум, у якім патрабаванне роспуску Вярхоўнага Савету непадзельна аб'яднана з умовамі гэтага роспуску — увядзеньнем у дзеяньне ўнесенага Апазіцыяй БНФ Закону аб выбарах і правядзеньнем увосень 1992 г. новых выбараў у вышэйшы орган улады Рэспублікі.

## ПЫТАНЬНЕ, ВЫНЕСЕНАЕ НА РЭФЕРЭНДУМ

Ці лічыце Вы неабходным правядзенне ўвосень 1992 года выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на падставе «Закону аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі», праект якога ўнесены Апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, і ў сувязі з гэтым датэрміновы роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета?

**Фармулёўка зацьверджана Цэнтральнай выбарчай камісіяй 13 лютага 1992 года.**

*В поддержку референдума*

## Нынешнему ВС веры нет!

**Я, поставил свою подпись в поддержку проведения референдума. Нынешнему Верховному Совету Беларуси нет никакой веры в том, что он улучшит жизнь трудящихся нашей Республики: нынешний состав Верховного Совета состоит из большинства номенклатурщиков.**

**Необходимо срочно обновить Верховный Совет, чтобы расстаться с коммунистическим прошлым!**

**К. ЯНГОЛЕНКО, пенсионер.**

*Віншуем удзельнікаў партыйнага пантэона!*

# ЗРАБІЛІ РУЧКАЙ

Зірніце, шаноўныя чытачы, на нашу ўладу, пачынаючы ад сельсавета і канчаючы Вярхоўным Саветам і Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь. Хто там сядзіць у кіруючых крэслах, дэмакраты? Так што вядуць і з кожным днём робяць наша жыццё больш невыносным па-ранейшаму яны, былыя наменклатуршчыкі. Яны на ўсіх узроўнях, калі не блакіруюць, дык у адкрытую сабатуюць выкананне тых законаў, якія распрацаваны апазіцыяй БНФ і ВС і прыняты са спазненнем у год-паўтара, але ўжо з падачы СМ ці іншых уладных структур. Так што былая наменклатура ў нас па-ранейшаму на вышыні, або пры ўладзе, або пры камерцыі. Возьмем, напрыклад, вярхушку Полацкага раённага партыйнага пантэона. Былы першы сакратар У. Сінякоў, які быў накіраваны ў старажытны Полацк з апарату ЦК КПБ, відаць не без дапамогі тых жа рук зноў атабарыўся ў Мінску і зноў на адну з кіруючых пасад «Беларускай аграпрамысловай біржы». Ветурач па спецыяльнасці, партыйны кіраўнік шырокага профілю, ён цяпер, як бачыце, займаецца бізнесам. Не патапляльная партыйная наменклатура. Яна заўсёды знаходзіць работу такую, аб якой у народзе кажуць «што б ні рабіць, абы нічога не рабіць».

Былы другі сакратар Полацкага райкома КПБ Уладзімір Тачыла пераплюнуў свайго шэфа. Ён перад тым, як стаць другім, быў трэцім сакратаром, кіраваў ідэалагічнай работай у маштабах раёна. Нёс сам у шырокія працоўна-сялянскія масы палымянае партыйнае слова і вучыў, як гэта найлепей рабіць, шматлікую армію актывістаў. Даводзіў да сваёй паствы, як хораша жыць пры развітым сацыялізме пад кіраўніцтвам роднай ленінскай партыі, якая «ум, честь и совесть нашей эпохи», і як дрэнна жывецца працоўнаму люду на загніваючым Захадзе, як там няшчадна эксплуатуе рабочых крывасмок-капіталіст і г. д. А як толькі адлучыўся ад партыйнай кармушкі, так грэбліва начхаў і на ўсю камуністычную ідэалогію, на яе багоў і апосталаў. Яму, як і іншым манюкам-ідэолагам адразу ж абрыдла «светлае камуністычнае заўтра», яны па-ранейшаму хочуць жыць у сытым сёння. А ідэалогіяй сёння не пракормішся. Таму былыя наменклатуршчыкі пакінулі прывілею змагацца за светлую камуністычную ідэю загартаваным ветэранам, а самі, як і таварыш, ці цяпер можа пан, Тачыла не супраць пабратацца з не так даўно ненавісным капіталістам. З капіталістамі і паяднаўся У. Тачыла, узначаліўшы сумеснае прадпрыемства, якое на Міёршчыне займаецца нарыхтоўкай драўнянага вугалю для загніваючага Захаду. А паколькі наш рубель дэвальваваў не менш, чым і камуністычная ідэя, то зарплату пан Тачыла атрымлівае ў далярах.

Арыгінальна развітаўся з камсамолам і былы першы сакратар Полацкага гаркама камсамола Віктар Літвінаў. Зрабіўшы ручкай ленінскай камуністычнай арганізацыі моладзі, ён прыватызаваў належачую ёй аўтамашыну па смехатворнай на сённяшні дзень цане ў шэсць тысяч рублёў.

Дык хто ж робіць наша жыццё з кожным днём «шчаслівейшым», дэмакраты, ці па-ранейшаму былыя партакраты?

**Гаўрыла ПОЛАЦКІ.**




*Не такое уж и плохое нынче время, если в людях просыпается чувство собственного достоинства. Вот и летчики Витебского аэропорта организовали пикет у входа в облисполком. Их требования пока что повисают в воздухе.*



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Васіль БЫКАЎ: «Думаю, што аб'яднанне ў Саюз ужо не выйдзе»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

ранейшай, хіба што будзе трошкі аслабленай часам, дэмакратычнымі пераўтварэннямі, а галоўным чынам—забаронай кампартыі. Толькі гэта на яе дзейнічае.

Калі ж меркаваць па характары рэспубліканскай прэсы, усе гэтыя пракамуністычныя газеты як былі так і засталіся, хіба што трошкі збавілі тон і вымушаны браць некалькі іншую фразеалогію. Такая прэса толькі цягне час і чакае новага путчу. Гэта ж натуральна, паколькі ўсе кадры, па сутнасці, засталіся ранейшымі, засталіся тыя ж рэдактары, тыя ж рэдкалегіі і тыя ж самыя журналісты. Тое ж мы бачым і па нашаму тэлебачанню, дзе змянілі кіраўніка, але ж і ранейшы кіраўнік застаўся. Да аб'ектыўнасці інфармацыі ім далёка. Як яна была суб'ектыўнай, пракамуністычнай, так і засталася. Вось апошні прыклад. На 23 лютага тэлебачанне толькі на некалькі секунд паказвае вялікі мітынг на плошчы Незалежнасці ў падтрымку рэферэндуму, які арганізавалі дэмакратычныя сілы, і аб'ёміста, падрабязна паказвае рэакцыйны мітынг у парку Горкага з выступленнямі яго арганізатараў.

**—Сёння гэтыя рэакцыйныя сілы актывізаваліся і ўсё часцей падаюць галасы. Прыхільнікі сацыялістычнага выбару прагнуць вяртання да ранейшай сістэмы. Напрыклад, па Віцебску рух за сацыяльную справядлівасць, ПКБ распаўсюджваюць паперкі—анкеты, дзе просяць тых, каму дарагі лёс агульнай радзімы (СССР), дабівацца яго аднаўлення парламенцкім шляхам, патрабаваць склікання Вярхоўнага Савета СССР, што ўвогуле супрацьзаконна для ўсіх дзяржаў. Як вы лічыце, што могуць прынесці, акрамя крыві, такія бязглуздыя патугі? Ці магчыма аб'яднанне ў ранейшы Саюз?**

—Я думаю, што аб'яднанне ў Саюз ужо не выйдзе, хаця гэта вялікая мара ўсіх камуністычных сілаў, якія зноў жадаюць сабраць усіх у агульны ГУЛаг. Дзейнічаюць яны актыўна як у цэнтры ў Расіі, так і ў нас. Ва ўсіх рэгіёнах, ва ўсіх нават раёнах аднавіліся камуністычныя арганізацыі. Адны—пад некалькі змененая назвай ПКБ, другія—пад рознымі іншымі сімваламі, і выбіраюцца яны на Міністэрства юстыцыі, якое іх прызнае, паколькі само камуністычнае. Гэта не тое, што Народны фронт два гады хадзіў, пакуль зарэгістраваўся. Гэтыя разрозненыя арганізацыі, здаецца, розныя па характару, у зручны момант усе аб'ядноўцца і выступяць як адзіная камуністычная арганізацыя. Дэмакратычная грамадскасць рэспублікі павінна быць да гэтага гатова. Яна павінна арганізаваць супрацiўленне гэтай рэстаўрацыі, якое можа адбыцца толькі пры шырокім удзеле народных мас, пры ўдзеле кіраўніцтва дэмакратычных партый. Але дэмакраты чамусьці адносяцца даволі паблажліва да палітычных гульняў былых камуністаў. Процідзейнічае толькі нейкім чынам адзін Народны фронт. І поспех у яго будзе пры ўдзеле ў антыкамуністычным руху ўсяго народа.

**—Наколькі падрыхтаваны наш народ, каб удзельнічаць у палітычным супрацьстаянні?**

—Беларускі народ усё больш упадае ў палітычную апатыю. Здаецца, ён ужо змірыўся, яму, пэўна, падаецца, што сваім няўдзелам ён тармозіць рэстаўрацыю. Але гэта як раз не так. І няўдзел у палітыцы на руку толькі рэакцыйным рэстаўрацыйным сілам, якія прывыклі ўсё рабіць без народа і за народ.

**—Пачаліся зборы рэферэндумных подпісаў па адстаўцы Вярхоўнага Савета і ўрада. Але ў сувязі з такой апатыяй народа, ці не акажуцца новыя выбары не ў карысць ініцыятарам рэферэндума?**

—Гэта, безумоўна, можа быць. Але справа ў тым, што да выбараў яшчэ далёка. Цяперашняя наменклатура будзе ўсяляк супраціўляцца, сабатаваць і рэферэндум, і выбары. Гэта адчуваецца ўжо цяпер, у часе першых крокаў падрыхтоўкі да рэферэндума. Чым далей, гэта супраціўленне будзе ўзрастаць, будуць розныя прыдзіркі, чыста фармальныя, як бывае ў такіх выпадках, то не так запоўнена якая графа, то не тыя звесткі. Будуць наладжвацца правакацыі, таму што камісіі будуць правяраць правільнасць правядзення рэферэндума.

Але ж закон аб выбарах прымае Вярхоўны Савет, ад яго шмат залежыць...

Мы бачым, што ініцыятары рэферэндума, перш за ўсё апазіцыя Вярхоўнага Савета, задумалі грандыёзную справу, цалкам канстытуцыйную. Яна настолькі грандыёзная, што ў нашым знепалітызаваным грамадстве нават цяжка ўявіць, як яе паспяхова здзейсніць. Усё ў рэшце рэшт будзе залежаць ад палітычнай сталасці нацыі. Нацыя пакажа, ці здольная яна ажыццявіць гэтую ідэю. Калі не, дык што ж рабіць, патрэбны яшчэ доўгія гады, вялікія пакуты, выпрабаванні, каб яна ўсё ж такі саспела для лепшага жыцця.

**—У Народнага фронту распрацаваны Закон аб выбарах. Адпаведна гэтаму закону неабавязкова, каб на выбары з'яўляліся ўсе без выключэння. Трэба зарэгістравацца толькі тым, хто захоча прыходзіць на выбарчыя ўчасткі. Ці не будзе гэта тым, што частка насельніцтва, асабліва вясковая, якая найбольш далёкая ад палітыкі, «захоча» ўдзельнічаць у выбарах, людзей прывядуць і накіруюць..?**

—Небяспекі тут шмат. Новы закон, што прапануе апазіцыя, вельмі дэмакратычны, сучасны. Але зноў жа гэты закон трэба прыняць, зацвердзіць, што таксама залежыць ад камуністычнай большасці ў Вярхоўным Савеце. Гэта, па-першае. А па-другое, ёсць шмат іншых падводных рыфаў. Добра, што колькасць акруг будзе зменшана, што выбары будуць па партыйных спісах. Але хто туды трапіць? Мы ведаем, што дэмакратычныя партыі таксама неаднародныя. У іх уплыў камуністычнай ідэалогіі вельмі моцны, як бы не называлася тая ці іншая партыя. Можа так стацца, што кандыдаты, за якіх будзе галасаваць народ, атрымаўшы мандаты, акажуцца зусім не тымі. Такога роду здрад, такіх дзіўных метамарфоз мы перажылі ўжо шмат. Успамінаецца такая ісціна, што сацыяліст ва ўладзе ўжо не сацыяліст. Ён ужо нехта іншы. Нам яшчэ прадстаіць пераканацца ў гэтай ісціне.

**—Як вы, Васіль Уладзіміравіч, лічыце, ці не з'явілася падпісанае нядаўна пагадненне з Расіяй аб адзінай эканамічнай і рублёвай зоне ў сённяшняй палітычнай сітуацыі, калі былыя рэспублікі ўзялі цвёрда акрэслены курс на незалежнасць, крокам Беларусі да пераўтварэння яе ў «Северо-Западный край?»**

—Гэтае пагадненне, як і многія іншыя ў наш час, вельмі мала значыць. Вы ўжо бачылі, колькі іх было заключана на розных узроўнях. Але яны былі вельмі неабавязковымі для выканання. Выконваліся тады, калі гэта было выгадна. Калі ж не, іх выдатна адкідваюць і робяць пасвойму. Цяпер ідзе магутны цэнтрабежных рух. Усе рэспублікі разбегліся. Да таго ж, рассыпаецца і Расійская федэрацыя. І з'яднаць усё ў адно, хаця б у адну эканамічную прастору, гэта ідэя, якую абсалютна немагчыма ажыццявіць. Хаця пэўныя органы і пэўныя сілы (камуністычныя) робяць усё, каб захаваць гэтую еднасць. Ніякую еднасць захаваць немагчыма. Можна толькі на пэўны час адтэрмінаваць канчатковы распад. Садружнасць, якую ўтварылі ў Белавежы, таксама з ліку такіх марных спроб. Эканамічныя сувязі як ірваліся так і рвуцца. І нічога не наладзіцца. Так што і пагадненне аб адзінай эканамічнай і рублёвай зоне з ліку такіх жа, як і ўсе астатнія.

**—Значыць, нам трэба шукаць іншыя шляхі, наладжваць сувязі з больш стабільнымі дзяржавамі Захаду?**

—Безумоўна. Справа ўся ў тым, як жыццё паказала, што захаваць старыя эканамічныя сувязі, перш за ўсё з Расіяй, немагчыма. Яны зжылі сябе. Наладзіць жа новыя з Захадам таксама яшчэ не пара. У нас розныя стартавыя магчымасці. У той час, як мы маем патрэбу ва ўсім, заходнія дзяржавы не бачаць у нашым баку ніякай карысці. А з гуманітарнай дапамогі мы не шмат атрымаем. Укладваць жа ў нас свае капіталы для Захаду не мае ніякага сэнсу. Аттрымліваецца вось такі тупік. Мне думаецца, што адзінае выйсце, гэта падтрымліваць тое, што яшчэ можна падтрымаць з ліку эканамічных сувязей, і як мага больш рыхтавацца разлічваць на ўласныя сілы, на ўласную эканоміку. Трэба развіваць тое, што мы можам развіць.

**—Як вы расцэньваеце блок «Новая Беларусь?»**

—Гэта блок з удзелам рэакцыйных прафсаюзаў, якія прадстаўляюць ваенна-прамысловы комплекс. Такое, безумоўна, як і некаторыя іншыя фарміраванні, можна расцэньваць як спробу ўплываць на даволі выразны і прынцыповы рух Беларускага Народнага Фронту. Гэта даволі сумная справа апошняга часу. Ды і шмат іншых блокаў і партый з'явілася. Асобных, так сказаць, правакатараў... У мяне няпэўная падазрэнне, што гэта не што іншае, як камуністычныя спробы да рэанімацыі былой сістэмы.

**—Як паважанаму земляку, мы дасылаем вам кожны нумар нашай дэмакратычнай газеты. Як след мы яшчэ не сталі на ногі. Шмат цяжкасцей і матэрыяльных, і маральных. Няма ніякай тэхнічнай службы, часам праскокваюць памылкі... Тым не менш, што скажаце вы пра «Выбар», што пажадаеце?**

—Адно скажу: газета харошая, размашыстая. Добрая і па афармленню, і па зместу. Адпавядае сённяшняму дню. Вельмі выдатна, што вы надрукавалі даклад камісіі Вярхоўнага Савета па ГКЧП. Шкада, што гэта зрабіла адзіная ў Беларусі газета. Людзі павінны былі б ведаць праўду.

**—За слова добрае дзякуй, за гутарку таксама.**

*В поддержку референдума*



Прозаседавшиеся! Ваше время ушло! Только профессиональный депутатский корпус, на мой взгляд, способен трезво и рассудительно оценить тревожную и взрывоопасную обстановку в республике Беларусь.

**С. ХОРОЩЕВ, народный депутат областного Совета.**



Я за референдум потому, что у нас в Беларуси не существует собственной политики. В новый Верховный Совет должны придти специалисты права, экономисты, политологи.

**А. ДУБРОВИН, депутат Рубовского Совета народных депутатов, председатель Независимого профсоюза горняков.**

## Удакладненне

У мінулым нумары нашай газеты было змешчана інтэрв'ю з Анатолем Астапенкам—сустаршынёй НДПБ, дзе гаварылася, што Нацыянальна-Дэмакратычная партыя ўвайшла ў блок «Новая Беларусь», каб супрацьстаяць наменклатуршчыкам на будучых выбарах.

На сёння, са слоў другога сустаршыні гэтай партыі В. І. Навуменкі, стала вядома, што **не паспеўшы ўвайсці ў «Новую Беларусь», мы (нацдэмы) тут жа з яе выйшлі, пакінуўшы за сабой права трымаць там назіральніка. Блок не атрымаўся—Грамаду падтрымала толькі сялянская партыя і прафсаюзы.**

Нацыянал-Дэмакратычная партыя ў перадвыбарчай барацьбе будзе арыентавацца на распрацоўкі іншых блізкіх ёй партый, на праграму БНФ, у які яна ўваходзіць на правах калектыўнага члена, падпісаўшы з ім асацыятыўнае пагадненне. Па словах В. Навуменкі, БНФ, хоць гэта не партыя, а рух, бліжэй за ўсё да нацыянальных дэмакратаў, далей за ўсё— Партыя камуністаў Беларусі.

**Вера АДРАДЖЭНСКАЯ.**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# ПРЫПАДАЮЧЫ

## 395-я ўгодкі Уніяцкай

**На працягу больш за два стагоддзі разбураўся сьветапогляд народаў Беларусі, разбэшчвалася народная душа, гвалціліся сьвятыні. У галовы людзям упарта запіхвалася аксіёма: беларусы да 1917 года ня мелі сваёй дзяржаўнасьці, не было ў Сусьвеце ні беларускай культуры, ні гісторыі, ні царквы, ні мовы. Этнаразбуральная палітыка набывала часам надзвычай пачварныя відарысы. Асьветніца Еўфрасіньня Полацкая ды першадрукар Францішак Скарына на пэўны час атрымалі назоў цемрашалаў. Старабеларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае стала падавацца як летувісцкае (жамойцкае) панаваньне. Рэч Паспалітая (рэспубліка, агульная справа Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага) стала трактавацца як дзяржава выключна польская. Нацыянальна-вызвольны рух Беларусі пачалі прымазваць да «польскай інтрыгі», адпаведна паўстаньні 1831, 1863 гг. безпадстаўна называючы польскімі.**

**З цягам часу большасць беларусаў пачала зьневажаць сваю духоўную маці—пакутніцкую Уніяцкую царкву. Вынік геніяльнага напружаньня народу (Унія) стаў падавацца як спараджэньне д'ябла, а Папа Рымскі стаўся «першым ворагам усходняга славянства». У той жа час захоп беларускіх земляў Расейскай Імперыяй стаў «узьяднаньнем», гэтак жа як і гвалтоўнае павяртаньне ўніятаў да расейскага праваслаўя.**

**Гэтыя матэрыялы—плён працы дасьледчыкаў гісторыі рэлігій у Віцебску.**

## Уваскрасенская царква

XVIII стагоддзе стала для Віцебска тым адметным часам, калі горад набыў свой непаўторны воблік: на месцы драўляных касьцёлаў, цэркваў і кляштараў узводзіліся мураваныя культавыя будынкі барокавага дойлідства. У гістарычным цэнтры горада зьявіліся новыя архітэктурныя дамінанты, склалася стабільная планіровачная структура. Вялікая доля ў культавым будаўніцтве другой паловы і канца XVIII стагоддзя належала ўніятам, **і гэта не дзіўна, бо, напрыклад, паводле падлікаў доктара гістарычных навук А. Грыцкевіча, да ўніятаў у той час належала больш за тры чвэрці насельніцтва Беларусі.** Цэрквы тады будаваліся ў асноўным на сродкі, ахвяраваныя жыхарамі горада, пераважна заможнай купецкай праслойкай. Сярод 16 уніяцкіх прыходскіх храмаў, якія існавалі ў канцы XVIII стагоддзя ў Віцебску, галоўнае месца займала Уваскрасенская—Рынкавая царква, якая мела статус саборнай і катэдральнай. (Акрамя гэтага ў горадзе было яшчэ два ўніяцкія базыльянскія манастыры, 7 каталіцкіх кляштараў і касьцёлаў і адна праваслаўная царква).

Першапачаткова Уваскрасенская царква была пабудавана з дрэва, відаць, недзе ў канцы XVI стагоддзя. У 1772 годзе на месцы старой драўлянай царквы на рагу вуліц Узгорскай і Падзвінскай была ўзведзена мураваная царква, сродкі на будаўніцтва якой былі ўкладзены віцебскім купцом Мікалаем Смыком. Будынак царквы быў вырашаны ў стылі беларускага барока і ўдала ўпісаны ў ландшафт.

Трэба ўзгадаць, што пасьля трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795 гг.) тэрыторыя Беларусі была анэксіравана Расійскай Імперыяй. Пакрысе царскі ўрад разам з праваслаўным маскоўскім клерам пачынаюць выношваць планы зьнішчэньня ўніяцкай царквы, паколькі апошняя да гэтага часу ўжо практычна сфармавалася як нацыянальная рэлігія беларусаў і працягвала актыўна садзейнічаць выпрацоўцы нацыянальнай сьвядомасьці і патрыятызму, змагалася за народную мову, карыстаючыся ёю ў набажэнстве і кнігадрукаваньні. Актыўна гэтыя **планы пачалі здзяйсьняцца ў 30-х** гадах XIX стагоддзя. Абсалютная

# ВІЦЕБСКІЯ БАЗЫЛЬЯНЕ

Манахі-базыльяне ў Віцебску з'явіліся ў 1682 г. Яны былі спецыяльна запрошаны сюды на жыхарства ў новы кляштар, што быў пабудаваны на сродкі віцебскага земскага пісара Адама Францішка з Брусілава Кісяля. Кляштар гэты разам з новым будынкам царквы быў узведзены на Прачысьценскай гары, у месцы зліцця ракі Віцьбы з Дзвіною, там, дзе знаходзілася раней праваслаўная саборная царква ў імя Успення Прасвятой Багародзіцы.

Першыя дакументальныя звесткі аб існаванні праваслаўнай царквы на Прачысьценскай гары (якая пазней называлася Саборнай) адносяцца да 1406 г. Гэты храм у Віцебску быў адным з галоўных, тут захоўваліся важныя гарадскія дакументы. На пачатку XVII ст. царква стала ўніяцкай, побач з ёю размяшчалася падвор'е Полацкага архіепіскапа, на якім у 1623 г. быў забіты сам архіепіскап—Іязафат Кунцэвіч. У 1629 г. гэтая царква згарэла і праз сем гадоў была адбудавана коштам горада. Да пачатку 1680-х гадоў драўляная царква атрухлела, а ў 1682 г. Адам Кісель пабудаваў на яе месцы новую царкву і кляштар.

Грэка-каталіцкі, або ўніяцкі ордэн св. Базыля Вялікага быў заснаваны на самым пачатку XVII ст., пасля заключэння ў 1596 г. у Брэсце уніі паміж каталіцкай і праваслаўнай цэрквамі. Амаль ад самага часу заснавання базыльянскага ордэна пачаўся перыяд ягонага ўзмацнення, як, прынамсі, адначасова ішоў працэс умацавання на дзяржаўным узроўні пазіцый уніяцкай царквы. Вялікую ролю адыгрывалі базыльяне ў справе адукацыі і выхавання моладзі—паўсюдна на Беларусі яны адчынялі школы як для навучання сваіх навіцыяў-манахаў, так і свецкага юнацтва.

Яшчэ ў 1682 г., адразу пасля за**прашэння базыльянаў у Віцебск, По**лацкі архіепіскап Кіпрыян Жахоўскі разам з землямі і лугамі ў ваколіцах горада падараваў манахам «паляну каля св. Духаўской царквы... і самую разбураную царкву ў імя св. Духа за пасадам Заручайскім» (дзе быў пазней заснаваны жаночы базыльянскі кляштар), а таксама адзін з пляцаў «юрысдыкі Узгорскай, што каля кафедральнай царквы знаходзіцца, для пабудовы вучылішча і памяшкання для кафедральнага настаўніка».

Як бачым, ідэя адукацыі і стварэн**ня вучылішча пачала ўвасабляцца** адразу ж пасля зьяулення базыльянаў у горадзе. Пры кляштары была створана школа для свецкага юнацтва, а таксама філасофская студыя для манахаў, у якой выкладалі логіку, фізіку і іншыя дысцыпліны, якія ўваходзілі ў кола навук схаластычнай філасофіі. Апроч таго, на ўтрыманні віцебскіх базыльянаў знаходзіліся найбольш здольныя юнакі, якія наву**чаліся ў іншых вучылішчах. У XVIII ст.** іхні лік даходзіў да 15 чалавек. У 1768 г. кляштару быў нададзены прывілей на перавязенне з Вільні ў Віцебск друкарні, аднак з-за розных прычын наўрад ці быў ён скарыстаны, бо да нашага часу няма звестак пра выданні віцебскіх базыльянаў.

К сярэдзіне XVIII ст. Віцебскі базыльянскі кляштар быў ужо досыць буйным землеўладальнікам і ўласнікам значных грашовых сумаў. Адным з асноўных шляхоў павелічэння кляштарнай маёмасці былі зямельныя ды грашовыя ахвяраванні ад шляхты і заможных гараджанаў. Самым значным фундатарам Віцебскага базыльянскага кляштара быў Адам Фран**цішак з Брусілава Кісяля. Ён пакінуў** фундушовы запіс, па якім кляштар атрымаў «на вечныя часы» шэраг маёнткаў у Віцебскім ваяводстве, што дало магчымасць наладзіць базыльянам прыбыткавую фальваркавую гаспадарку, якая забяспечвала прадуктамі харчавання саміх манахаў і дазваляла тое-сёе прадаваць. У фальварках былі пабудаваныя корчмы і млыны, якія таксама прыносілі добры даход.

Згодна завяшчанню Адама Кісяля, кожны тыдзень базыльянамі павінна было адпраўляцца 6 абедняў за душы яго, як фундатара, і ягоных бацькоў, а таксама штодзень пасля вячэрні павінна была адпраўляцца літанія (малітоўныя спевы) св. Іязафату.

На жаль, сёння мы не маем магчымасці прасачыць этапы замацавання манахаў-базыльянаў у Віцебску, таму **што, як піша польскі гісторык** XVIII ст. Сцябельскі, ня доўга ганарылася сваімі аздобамі саборная віцебская царква, «бо 1708 года дня 28 верасня Пётр Аляксеевіч, маскоўскі цар, спаліў горад, у якім і царква з кляштарам базыльянскім згарэла».

Драўляны кляштар і царква ў першай палове XVIII ст. адбудоўваліся яшчэ некалькі разоў.

**У 1742 годзе віцебскія купцы-бур**гамістры, браты Міхаіл і Сямён Лапы ахвяравалі 6000 талераў бітых на пабудову ў Віцебску мураванага храма ў гонар св. Іязафата. Услед за Лапамі з той жа нагоды віцебскія бургамістры Іван Ігольнікаў і Мацвей Галуза з жонкаю ахвяравалі 2000 талераў бітых. Сабраўшы дастатковую колькасць сродкаў, нарыхтаваўшы цэглы і каменняў, як паведамляецца ў «Летапісе г. Віцебска» Панцырнага і Аверкі, «у лета 1743 ксяндзы базыльяне пачалі будаваць мураваную царкву».

Адзін з самых вялікіх і прыгожых мураваных храмаў горада—царква базыльянскага кляштара ў Віцебску была ўзведзена па праекту архітэктара італьянскага паходжання Фанта-



© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# ДА ВЫТОКАЎ

## *царквы на Беларусі*



*Гэтым адзінокім людзям улады абяцаюць дах над галавой. Але яны пражылі амаль усе свае гады без Храма. Будзем жа маліцца, каб былыя зруйнаваныя саборы ўзняліся. Бог не пакінуў нашы сэрцы!*

большасьць беларусаў з-пад палкі і пры дапамозе рэпрэсій пачала пераганяцца ў праваслаў'е. Такі сумны лёс напаткаў і парахвіян Уваскрасенскай царквы. А паколькі парахвіяне сталі праваслаўнымі, то і царква неўзабаве была передадзена ў расійскае праваслаўнае ведамства. Адбылося гэта ў 1834 годзе.

У 1841 г. епархіяльны архітэктар Порта склаў праект на пераробку Уваскрасенскай царквы. Гэта было неабходна новым уладам дзеля таго, каб нават сама архітэктура будынка не нагадвала нікому пра былыя часы. Па праекце выгляд царквы павінен быў зьмяніцца цалкам, аднак не ўсё было зроблена так, як задумана. Замянілі толькі чамусьці франтон на галоўным фасадзе, быў зьбіты барочны шчыт над апсідай, а па цэнтры даху паставілі драўляны барабан з купалам, які сказіў агульную кампазіцыю будынка.

Вось у такім выглядзе і вядомая нам Уваскрасенская царква на шматлікіх гравюрах і фотаздымках XIX—пачатку XX стагоддзяў. У такім выглядзе гэты выдатны і самы прыгожы помнік віцебскай архітэктуры і праіснаваў да студзеня 1936 года, пакуль бальшавіцкая ўлада з ідэямі культурнай рэвалюцыі на ўзбраенні не сьцерла яго з твару старажытнага горада.

... У мінулым годзе на месцы, дзе колісь стаяла царква, былі праведзены **археалагічныя дасьледаваньні, пад** час якіх удалося выявіць фрагменты падмуркаў будынка, а таксама зрабіць многа цікавых знаходак. Гэтыя дасьледаваньні працягнуцца і сёлета, бо шмат чаго яшчэ трэба высьветліць. Ужо зараз вядуцца падрыхтоўчыя працы па стварэньню праектнай дакументацыі на аднаўленьне Уваскрасенскай царквы. На ўсё на гэта, як вядома, патрэбныя сродкі. **І хочацца зьвярнуцца з прозьбай да прадпрыемстваў і прадпрымальнікаў, да ўстаноў горада і прыватных асобаў, да тых, хто неабыякавы да сівой даўніны і хто любіць свой горад, аказаць у гэтай справе пасільную фінансавую дапамогу. Ад таго, што ў Віцебску будзе адроджаны яшчэ адзін яго выдатны помнік архітэктуры, наш зьнявечаны і тым ня меньш прыгожы горад стане яшчэ прыгажэйшым.**

**Ігар ЦІШКІН, археолаг.**

**На здымку:** Уваскрасенская царква, XVIII ст. Рэканструкцыя архітэктара І. **РОЦЬКІ**.

## *Дарагі сябра!!!*

**Прапануем тваёй увазе адозву Кастуся Каліноўскага—змагара за волю беларускага народу. Пабачыла яна свет у снежні 1862 года. Друкуючы яе, маем за мэту даць дакладнае ўяўленне аб сапраўднай беларускай веры, забароненай імпэрскімі ўладамі 12 лютага 1839 года. Потым рэшткі яе дабіваліся на працягу 150 гадоў рознымі рэжымамі. Але вера гэта засталася ў душы беларускага народу, жыве яна і на эміграцыі. Сёння надышоў час вяртання. Вяртайцеся ж браты і сястрыцы да веры продкаў нашых і знойдзеце спакой ад далучэння да ісціны.**

**Полацкая грэка-каталіцкая (ўніяцкая) суполка.**

## *МУЖЫЦКАЯ ПРАЎДА № 6*

Дзяцюкі!

Чы мая праўда горка, чы яна салодка, я пісаў заўсёды і пісаці буду—вучыў я Вас, як рабіці трэба, і вучыці буду. Вы адно слухайце мяне, талкуйце добра і рабіце так, як сумленне Вам скажа, а Бог яшчэ злітуецца над намі і дасць нам шчасце, і дабро ў нас будзе.

Калі Бог, стварыўшы чалавека, даў яму душу, то не на тое, каб ён жыў як сабака, на гэтым, а на тамтым свеце прападаў на век вякоў у муках пякельных, а для таго, Дзяцюкі, каб знаў закон Божы, знаў свайго Бога, знаў сваю веру і заслужыў на шчасце нябеснае. Калі Сын Боскі, прыйшоўшы на гэты свет, устанавіў праўдзівую веру і за гэту веру цярпеў крыжовыя мукі, то не для таго, каб якіясь там Цары маскоўскія, байстручага роду, перамянілі закон Божы, а мы, на прыказ гэтых Цароў, выракаліся веры сваіх Дзядоў і Прадзядаў і не хвалілі Бога, а радню царскую, но для таго, Дзяцюкі, Бог Найвышшы цярпеў за нас, каб закон Яго быў ужо вечны, ніхто ня смеў пераменяці, а мы з цэлай моцы трымаліся яго.

Но чы гэтак, Дзяцюкі, робіцца ў нас, як сам Бог прыказвае, ці дзержымася мы закону Боскага? Самі скажыце. Не адзін ужо, можа, забыўся, што бацька яго быў яшчэ справядлівай Уніяцкай веры, і ніколі ўжо не ўспомніць на тое, што перавярнулі яго на сызму (схізму), на праваслаўе, што ён сягодня, як той сабака, жыве без веры і як сабака, здохне чартам да Пекла!!! О Дзяцюкі, ліха такому чалавеку! А калі мы будзем гэтак рабіці з Богам, так што ж Бог Найвышшы з намі зробіць? Аддасць у Пекла на вечныя мукі, будуць чэрці душу нашу на кускі рваці, а смала ў вантробах кіпеці будзе. Пазнаеш тады своё ліха—но ў Пекле па няўчасе ўжо будзе, не перапросіш тады ўжо справядлівага Бога, і мукам тваім ніколі канца не будзе.

Цяпер пытаю Вас, Дзяцюкі, хто ж нам гэта ліха нарабіў і што зрабіці трэба, каб мы былі шчаслівыя і на гэтым і на тамтым свеце?

Нарабіў нам гэтага ліха, Дзяцюкі, гэта Цар маскоўскі, ён та, перакупіўшы многа папоў, вялеў нас у сызму запісаці, ён та плаціў грошы, каб мы толькі пераходзілі на праваслаўе, і, як гэты Антыхрыст, адабраў ад нас нашу справядлівую Уніяцкую веру і пагубіў нас перад богам навекі; а зрабіў гэта для таго, каб мог нас без канца драці, а Бог справядлівы не меў злітавання над намі.

Но, Божа Звышмоцны, міласэрны ты наш Пане, Ты аб нас не забывай, злітуйся над намі, памажы нам у нашай нядолі, выжані Маскаля з нашага краю, дай нам праўдзівую вольнасць і веру нашых Дзядоў і Прадзядоў—а касцёлы, што Маскаль, нячыстая яго сіла, параскідаў альбо перарабіў на стайні і цэрквы, зноў заяснеюць Тваёй хвалою, і народ у іх хваліці Цябе будзе, як хвалілі нашыя продкі. Заспяваем тады ў адзін голас нашу песню святую: «Святы Божа, святы моцны, святы несмяртэльны—змілуйся над намі»—і Бог Найвышшы змілуецца над намі, дапаможа нам у нашай працы, а на тамтым свеце дасць кралеўства нябеснае—і не будуць ужо дзеткі нашыя сваю матку праклінаці, што на свет радзіла!!!

Паказваюць людзі, як святы Айцец аж з Рыму прыслаў ужо да нас сваё благаславенне (но Маскаль яго спыняе), гавораць, што прышле і ксяндзоў, што будуць прымаць на Уніяцкую веру. Тады, Дзяцюкі, хто адно верыць у Бога, Яго Сына і Духа Святога, няхай зараз пакідае сызму і пераходзіць на праўдзівую веру Дзядоў і Прадзядоў. Бо хто не пяройдзе на Унію, той сызматыкам застанецца, той як сабака здохне, той на тамтым свеце пякельныя мукі цярпеці будзе!

Так годзе ўжо, Дзяцюкі, жыці без ніякай пацехі на свеце, калі Бог міласэрны мае злітаванне над намі, а ты чалавеча, як прачытаеш альбо пачуеш гэту праўду, згавары пацеры, каб Бог Звышмоцны дапамог людзям, што дабро нам думаюць, што хочуць, каб мы былі вольныя, як шляхта, мелі сваю зямлю, як шляхта, хвалілі Бога па праўдзе і заслужылі Неба на тамтым свеце.

Гэтага для Вас ад душы хоча ваш брат, такі самы з Дзядоў-Прадзядоў мужык, як і Вы, но яшчэ **Уніяцкай** веры—Яська гаспадар з пад Вільні.

Царква віцебскага базыльянскага кляштара ў імя Успення Прасвятой Багародзіцы і св. Пакутніка Іязафата зьявілася цудоўным помнікам позняга беларускага барока, якое ў мастацтвазнаўстве атрымала назву «віленскага». Гэта была пяцінефная крыжова-купальная базіліка з папярочным нефам (трансептам) і дзвюма вежамі на галоўным фасадзе, які выходзіў на Дзвіну. Царква была з'арыентаваная строга па восі захад-усход і таму размяшчалася пад некаторым вуглом да галоўнага кляштарнага корпуса. Аб тым, які яна мела першапачатковы выгляд, мы можам меркаваць на падставе малюнкаў, зробленых у канцы XVIII ст. **польскім мастаком** Юзафам Пешкам.

Складаны **сілуэт пабудаванай** базыльянамі ў **Віцебску царквы гарманічна** ўпісаўся **ў сістэму дамінант горада**, выразна прачытваўся з боку ракі Дзвіны, пераклікаўся з вертыкалямі Ратушнай плошчы (шпілем гарадской ратушы, вежамі Уваскрасенскай царквы і бернардзінскага касцёла).

Будаўніцтва царквы было скончана не раней **1785 г. Аб тым, якую значную** ролю **ў грамадскім жыцці Віцебска** адыгрываў кляштар **ксяндзоў-базыльянаў, сведчыць той факт, што менавіта ў ягоным** архіве ў XVIII ст. захоўваліся такія важныя дакументы, як каралеўская грамата 1641 г. на аднаўленне Магдэбургскага права г. Віцебску і права Віцебскага магістрата 1881 г. на пляц і крамы пад ратушай.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, калі Віцебск адышоў да Расійскай імперыі і ў хуткім часе стаў губернскім горадам, афіцыйныя ўлады пачалі клапаціцца аб адкрыцці ў ім праваслаўнай саборнай царквы. На будаўніцтва новага храма спатрэбілася б «немало времени, затруднения и многочисленной издержки казенного интереса», як пісаў святар адзінай у той час у Віцебску драўлянай праваслаўнай царквы айцец Іаан Сырахноў. Царква базыльянскага кляштара была пабудаваная па канону грэчаскага абраду (з'арыентаваная алтаром на ўсход) і мела шмат царкоўнага начыння, якое можна было ўжываць пры адпраўленні праваслаўнага набажэнства. Іерархі праваслаўнай царквы пачалі хадатайнічаць перад уладамі аб перадачы ім царквы базыльянскага кляштара. Нягледзячы на ўсе намаганні апошняга настаяцеля кляштара Адама Суража спецыяльным рэскрыптам імператара Паўла І ад 18 ліпеня 1799 г. базыльянскі кляштар быў перададзены ў ведамства праваслаўнага беларускага епіскапа Анастасія. Уся ягоная маёмасць была апісана і перададзена ўніяцкаму Тадулінскаму кляштару.

Пасля перадачы ў праваслаўнае ведамства былая базыльянская царква стала называцца Успенскім саборам, і пачаўся перыяд яе пераробак. Спачатку было зменена ўнутранае ўніяцкае начынне: айцец Іаан Сырахноў, прызначаны протаіерэем сабора, прывёз большасць рэчаў з Аляксандра-Неўскай рызніцы. У 1804 г. на месцы перасячэння трансепта і цэнтральнага нефа сабора быў узведзены купал на драўляным цыліндрычным светлавым барабане; барочныя франтоны фасадаў былі заменены трохвугольнымі. Такім чынам цэльнасць адметнага познебарочнага вонкавага выгляду царквы была парушана ўвядзеннем у яе дэкаратыўных элементаў класічнай архітэктуры. З 1861 г. у будынку былога базыльянскага кляштара была адчынена духоўная семінарыя, пераведзеная сюды з Полацка.

Успенскі сабор у Віцебску быў узарваны ў канцы 1930-х гадоў.

Такім чынам, мы можам сцвярджаць, што ордэн базыльянаў у Віцебску ўнёс сваю дастойную лепту ў духоўнае і культурнае жыццё горада перыяду позняга сярэднявечча.

**Л. ХМЯЛЬНІЦКАЯ,**
**гісторык.**



**На здымку:** Царква Віцебскага базыльянскага кляштара. Малюнак **Ю. ПЕШКІ** канца XVIII ст.

**(Ганарары за гэтыя артыкулы аўтары пералічваюць на рахунак Віцебскага абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры № 000702102 у Віткамбанку на аднаўленьне Уваскрасенскай царквы).**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

